ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года

№ 6(5188)
Аўторак, 16 студзеня 2001 года

Кошт у розніцу — 47 руб.

Рэформа школы — у дзеянні

## Трапіць у дзесятку

*На мове стралкоў гэта азначае высокае майстэрства. У апошні час такая тэрміналогія стала характэрнай і для вучняў сярэдняй школы №1 Шчучына. Тут праводзіцца вядомы эксперымент, сутнасць якога ў тым, што пашырана шкала ацэнкі вучэбна-пазнавальнай дзейнасці вучняў да дзесяці балаў. Пра тое, як праходзіць эксперымент, расказвае дырэктар школы К.К.Хрыптовіч.*

**— Ці паўплывае новая сістэма ацэнкі ведаў вучняў на паляпшэнне якасці ведаў і павышэнне ўзроўню выхаванасці вучняў?**

— Бясспрэчна, сістэма ацэнкі вынікаў працы школьніка мае вельмі важнае значэнне ў арганізацыі вучэбна-выхаваўчага працэсу. Існуючая ж пакуль што сістэма ацэнкі ведаў не дае магчымасці дыферэнцыраваць веды вучня, ускладняе ўстанаўленне адзіных падыходаў да якаснага і колькаснага ацэньвання вынікаў навучання. Пашырэнне шкалы ацэнкі вучэбна-пазнавальнай дзейнасці вучняў да дзесяці балаў абумоўлена як неабходнасцю ў аб'ектыўным ацэньванні ведаў і навыкаў школьнікаў, так і ва ўзмацненні стымулюючай ролі адзнакі, уліку індывідуальных якасцяў вучняў як асоб.

**— І з якога часу ў Вашай школе праводзіцца эксперымент?**

— Падрыхтоўчы этап пачаўся з 21 лютага мінулага года. Задзейнічаны чатыры эксперыментальныя і кантрольныя класы, 36 настаўнікаў. Праведзена папярэдняя растлумачальная работа з педагогамі, вучнямі, бацькамі. Усе яны з разуменнем і адказнасцю аднесліся да эксперыменту.

**— Калікс Каліксавіч, справа, за якую Вы ўзяліся, новая. Хацелася б даведацца пра яе больш падрабязна.**

— Усе вучні эксперыментальных класаў былі забяспечаны крытэрыямі ацэнкі, лісты з якімі ўклалі ў дзённікі. Настаўнікі атрымалі інструктыўна-метадычныя матэрыялы па дзесяцібальнай сістэме ацэнкі ведаў і навыкаў школьнікаў, дзе змешчаны прыкладныя нормы ацэнкі па вучэбных курсах і прадметах з 5 па 11 класы. За перыяд падрыхтоўчага этапу настаўнікі і вучні вывучылі патрабаванні 10-бальнай сістэмы да выстаўлення адзнак.

**— З пачатку правядзення эксперыменту прайшло яшчэ мала часу. Ці ёсць якія-небудзь зрухі?**

— Выявілася, што дзесяцібальная сістэма дае магчымасць пашырыць выкарыстанне розных відаў, метадаў і форм кантролю, ухіліць шэраг негатыўных з'яў, якія могуць узнікнуць пры чатырохбальнай сістэме. Гэта падштурхнула калектыў школы пры апрабацыі дзесяцібальнай шкалы да пошуку альтэрнатыўных і больш рацыянальных падыходаў у ацэначнай дзейнасці. Лічым, што неабходна ўзброіць вучняў тымі крытэрыямі, кіруючыся якімі, яны будуць таксама, як і настаўнікі, рабіць ацэнку і самаацэнку сваёй працы.

Мы дамовіліся ранжыраваць ступень значнасці кожнага віду праверачнай работы ў працэнтах, каб у суме ўсе праверачныя работы за тэму або за чвэрць складалі 100 працэнтаў. У сувязі з гэтым настаўніку эксперыментальных класаў у пачатку кожнай чвэрці неабходна прадумваць усе віды праверачных работ па прадметах, за якія ўжо будуць выстаўлены адзнакі ў выглядзе балаў і працэнтаў. Адзнакі фіксуюцца ў дзённіках вучняў, журнале, але без працэнтаў. Да вашага ведама, двойка — гэта "0" балаў, тройка — 1, 2, 3, 4 балы, чацвёрка — 5, 6, 7 балаў, пяцёрка — 8, 9, 10 балаў.

У педагогаў з'явілася магчымасць вышэйшай адзнакай у 10 балаў адзначаць школьнікаў, якія працуюць творча і маюць больш глыбокія веды, чым патрабуе праграма. І разам з тым адпала магчымасць "збіваць" вучня на "2", так як "0" балаў, якія адпавядаюць "2", могуць быць выстаўлены пры адсутнасці адказу ці пры адказе са шматлікімі памылкамі, якія не ўхіляюцца пры дадатковых пытаннях настаўніка. Іншых сітуацый для выстаўлення "0" балаў няма.

Ва ўмовах эксперыменту вучні дзевятых класаў могуць атрымаць пасведчанне аб базавай адукацыі або залаты медаль за курс сярэдняй школы пры наяўнасці 8, 9, 10 балаў, якія адпавядаюць "5" з дзвюх "4", якія, у сваю чаргу, адпавядаюць 6, 7 балам.

**— Што ўсё такі дае ўвядзенне ранжыроўкі ступені значнасці кожнага віду праверачных работ у працэнтах пры дзесяцібальнай сістэме ацэнкі?**

— Прааналізаваўшы набыты вопыт у эксперыментальных класах, можна зрабіць выснову. Гэтая сістэма больш аб'ектыўная і справядлівая. Яна стымулюе працу вучня да больш высокіх вынікаў, ліквідуе недахопы ў выстаўленні выніковых адзнак, поўнасцю адпавядае прынцыпу гуманізацыі і дэмакратызацыі школьнай адукацыі. Такая ацэнка ведаў дае магчымасць пашырыць выкарыстанне розных форм кантролю, стымулюе настаўніка да творчасці ў ацэначнай дзейнасці (тэсты, залікі, творчыя работы, рэфераты і г.д.).

Параўнальны аналіз паспяховасці ў эксперыментальных і кантрольных класах паказаў яе павышэнне ў эксперыментальных. Пры данай сістэме настаўнік абавязаны выстаўляць адзнакі ў дзённікі школьнікаў у балах і працэнтах, што не заўсёды магчыма ў дзеючай сістэме ацэньвання. Класны журнал становіцца дакументам для налічэння зарплаты і кантролю за ходам вучэбна-выхаваўчага працэсу, ухіляюцца ўсе недахопы па вядзенні класных журналаў і іх захаванасці. Значна змяншаецца колькасць прычын для канфліктаў паміж вучнямі і настаўнікамі з-за неаб'ектыўнасці выстаўлення адзнак. Губляецца сэнс для школьніка не прыходзіць на кантрольную ці іншую праверачную работу, вынікі якіх ацэньваюцца ў балах і працэнтах. Ліквідуюцца непаспяховасць і другагодніцтва. Практыка паказвае, што другі год навучання ў адным і тым жа класе не дае станоўчых вынікаў. Нарэшце, медалістамі могуць стаць вучні з аб'ектыўна атрыманымі адзнакамі і глыбокімі ведамі па ўсіх прадметах. Думаю, што ў ходзе эксперыменту будуць выяўлены і іншыя станоўчыя якасці дзесяцібальнай сістэмы.

**— Як вядома, гэта першы этап эксперыменту. А як ён будзе праходзіць далей?**

— У гэтым навучальным годзе распачаўся другі этап эксперыменту — фарміруючы. Яго мэта — поўнамаштабная праверка гіпотэзы эксперыментальнага даследавання. Павялічваецца колькасць эксперыментальных класаў. У эксперымент уключаюцца іншыя віды вучэбных устаноў (ВНУ, тэхнікумы, ліцэі, гімназіі).

Эксперыментальная работа патрабуе ад яго ўдзельнікаў дадатковай затраты часу, творчасці і г.д. Загадам Міністэрства адукацыі ад 13 ліпеня 2000 года ўстанаўліваецца павышэнне ставак зарплаты на 15 працэнтаў настаўнікам, а дырэктару і яго намесніку — на 20 працэнтаў ва ўстановах, якія атрымалі статус эксперыментальных пляцовак.

Па ўсіх даных выніковасці дзесяцібальнай сістэмы праз год-два яна будзе ўкаранёна ва ўсіх вучэбных установах рэспублікі. Таму са згоды аддзела адукацыі пачынаючы з першай чвэрці мы запрашаем на семінары-практыкумы прадстаўнікоў школ раёна (у першую чаргу кіраўнікоў і намеснікаў) па вывучэнні тэхналогіі ўвядзення дзесяцібальнай сістэмы ацэнкі і ўвядзенні новай методыкі выстаўлення выніковых ацэнак.

**— У сувязі з новай формай арганізацыі работы ці ўзнікаюць у Вас якія праблемы і пажаданні?**

— Ёсць просьба да аддзела адукацыі райвыканкама: неабходна вырашыць пытанне аб увядзенні ў штатны расклад пасады дыспетчара. Гэта звязана з тым, што тут 43 класы-камплекты, працуе завочнае аддзяленне, аддзяленне па навучанні хворых дзяцей у бальніцы, адкрыты два ліцэйскія класы, тры класы па паглыбленым вывучэнні прадметаў, пяць профільных класаў. Плюс яшчэ год напружанай працы па эксперыменце.

**— Няхай ажыццявіцца ўсё задуманае, і поспехаў Вам у працы.**

— Дзякуй.

**Гутарыў Канстанцін КЛЕБАН.**







## Музей класіка беларускай літаратуры Уладзіміра Караткевіча

У Мінску ў Вышэйшым вучылішчы электронікі адбылося ўрачыстае адкрыццё музея Уладзіміра Караткевіча. У экспазіцыі сабраны фотадакументы, першыя выданні пісьменніка, публікацыі, афішы тэатральных спектакляў па яго творах.

НА ЗДЫМКАХ: музей адкрывае пісьменніца Вольга Іпатава (злева); пісьменнік Адам Мальдзіс віншуе дырэктара музея выкладчыка Пятра Жалнаровіча са стварэннем экспазіцыі; частка экспазіцыі музея.

**Фота Мікалая ПЯТРОВА, БЕЛТА.**

## Правы дзяцей — права на будучыню

***Пад такім дэвізам працуе ПТВ № 130 кулінарыі Чэрыкава Магілёўскай вобласці, займаючыся адукацыяй навучэнцаў у галіне правоў чалавека.***

Узрост ПТВ — 23 гады. Заснавана вучылішча на базе былой школы-інтэрната. Больш як 5 тысяч спецыялістаў пайшло ў жыццё з нашых сцен. Рыхтуем людзей самых мірных прафесій: кухараў дзіцячага харчавання, кандытараў, прадаўцоў. Навучаем моладзь Магілёўскай, Гомельскай (у меншай ступені — Віцебскай) абласцей.

Праблема навучання правам чалавека існуе на розных узроўнях адукацыі. Не так даўно з прычыны вядомых гістарычных і ідэалагічных абставін гэтая праблема практычна не ўзнімалася, не знаходзіла яна належнага адлюстравання і ў вучэбна-выхаваўчым працэсе ў адукацыйных установах, у вучэбных планах і праграмах. А вось сёння, як ніколі, мы ясна разумеем, што без такіх ведаў немагчыма ажыццявіць дэмакратызацыю і гуманізацыю грамадскага жыцця, пазбегнуць праяўленняў нецярпімасці, нацыяналізму і г.д.

Гэта актуальна для нашай сістэмы адукацыі, паспяховае рэфармаванне якой таксама немагчыма без уключэння ў змест научання тэарэтычных і практычных пытанняў правоў чалавека. Пра павышэнне значэння праблемы правоў чалавека гаворыць і той факт, што Генеральная асамблея ААН абвясціла 1995 — 2005 гады Дзесяцігоддзем адукацыі ў галіне правоў чалавека.

Працуючы па адукацыі ў галіне правоў чалавека, ПТВ-130 кулінарыі кіруецца наступнымі важнымі падыходамі.

У арганізацыі жыццядзейнасці падрастаючага пакалення ісці ад дзіцяці, а не да дзіцяці са сваімі патрабаваннямі і ўказаннямі, як гэта было ў традыцыйнай педагогіцы. Такі падыход забяспечвае дзіцяці сацыяльную абарону (рэалізацыя правоў дзіцяці ў сям'і, навучальнай установе, грамадстве і г.д.), сацыяльную адаптацыю (стасункі падлеткаў паміж сабой, з навакольным асяроддзем і светам) і сацыяльныя гарантыі (развіццё дзіцяці як асобы, яго схільнасцей, здольнасцей, магчымасцей).

Сям'я, навучальная ўстанова, грамадства пастаўлены ў роўныя ўмовы — гэта значыць ва ўмовы прафесійнага, кампетэнтнага ўдзелу ўсіх дарослых у развіцці асобы падлетка.

Сістэма работы па данай праграме закладзена ў мэтавай комплекснай праграме выхаваўчай работы вучылішча "Знайдзі сябе" (раздзел "Чалавек, свабода, правы").

Яна ўключае і распрацоўку з навучэнцамі агульнавучылішчных дакументаў, якія вызначаюць іх правы і абавязкі ў вучэбным, грамадскім і культурным жыцці (правілы паводзін на вечары адпачынку; абавязкі старасты; абавязкі дзяжурнай групы і г.д.); правядзенне ролевых гульняў "Паводле якіх правілаў мы жывём", "Чалавек і закон" і г.д., дыялогаў "Ці ведаеце вы сябе?", інфармацыйных гадзін, тыдняў прававых ведаў, дзён прафілактыкі, сустрэч з работнікамі праваахоўных органаў (вечары пытанняў і адказаў, брэйнг-рынгі, дыскусіі, дыялогі); работу лектарскай групы па прапагандзе і тлумачэнні асноўных палажэнняў Закона аб правах дзіцяці; арганізацыю выстаў і чытацкіх канферэнцый па творах пісьменнікаў-гуманістаў і г.д.

Навучальная ўстанова сёння — тое месца, дзе правы чалавека не толькі вывучаюцца, а і рэалізуюцца, бо ў дакументах нашай рэспублікі аб правах дзіцяці (законы Рэспублікі Беларусь "Аб правах дзіцяці" і "Аб адукацыі") вызначаны ўмовы, неабходныя для гуманістычнага выхавання навучэнцаў. А тлумачэнне правоў і іх вывучэнне і з'яўляюцца зыходным момантам для фарміравання ў падлеткаў грамадзянскасці, дэмакратычнай культуры, сацыяльнай творчасці, умення дзейнічаць у інтарэсах самаўдасканалення сваёй асобы, грамадства, Айчыны. Улічваючы вялікі сацыяльна-педагагічны патэнцыял, закладзены ў Канвенцыі ААН і Законе "Аб правах дзіцяці", прапаганда гэтых дакументаў вядзецца сродкамі пазакласнай работы. Майстры, выхавацелі стараюцца выкарыстоўваць нетрадыцыйныя формы правядзення пазакласных мерапрыемстваў. Напрыклад, цікавы і змястоўны вусны часопіс майстра вытворчага навучання С.Паўлюковай "Твае правы, выпускнік". Гэты матэрыял можна выкарыстоўваць і дарослым, і падлеткам.

У вучылішчы навучаюцца дзеці з поўных і няпоўных сем'яў, дзеці-сіроты, дзеці, якія маюць апекуноў. Таму кожнаму з іх важна ведаць свае правы, каб вызначыцца ў жыцці пасля атрымання прафесіі. Майстры вытворчага навучання Г.Асмалоўская і С.Салянікава для выхаваўчай гадзіны сумесна з навучэнцамі падрыхтавалі матэрыялы для правядзення брэйнг-рынга "Па старонках нашых правоў". Элементы спаборніцтваў, музычныя застаўкі, сітуацыі дапамагаюць падлеткам папаўняць свае веды ў галіне правоў чалавека, фарміраваць перакананні аб каштоўнасці ўласнай асобы.

У тыдні прававых ведаў прыме ўдзел метадычны праект тэматычнага вечара майстроў вытворчага навучання Е.Прасенцавай і С.Грынёвай "Кожнае дзіця мае права". Праграма разлічана не толькі на ўдзельнікаў, але і на гледачоў (а гэта, як правіла, моладзь горада). Гульні, экспрэс-конкурсы, разгадванне красвордаў у якасці дамашняга задання будуць садзейнічаць і пашырэнню прававога кругагляду, і карыснаму адпачынку.

Інтэлектуальную гульню "Правы чалавека — правы дзіцяці" прапануюць групам першага курса майстры вытворчага навучання Г.Краўчанка і Л.Міранцава.

Гэта толькі асобныя штрыхі работы нашага педагагічнага калектыву ў даным, вельмі актуальным на сёння накірунку. Важныя не формы правядзення мерапрыемстваў, а вынікі, лічаць нашы педагогі.

У 1999 — 2000 навучальным годзе сацыяльны педагог Н.Марусеева падрыхтавала бацькоўскі сход "З павагай да будучыні". Сумесна з бацькамі педагогі разважалі над пытаннямі аб становішчы дзяцей у нашым грамадстве, аб выкананні бацькамі іх грамадзянскіх і бацькоўскіх абавязкаў і г.д. І сумесныя вывады пасля сходу — гэта яшчэ адзін крок наперад у далейшай агульнай рабоце па выхаванні падлеткаў. У гэтым навучальным годзе плануем правесці разам з бацькамі нашых навучэнцаў турнір-гульню "Вялікі сямейны перапынак" (метадычная распрацоўка майстроў вытворчага навучання С.Койнавай і А.Яфрэменка).

Нашым дзецям — жыць у цывілізаваным грамадстве, а значыць трэба мець прававую культуру. Яшчэ старажытныя рымляне гаварылі, што "права ёсць мастацтва дабра і справядлівасці".

**С.БОРАХАВА,**
**намеснік дырэктара па вучэбна-выхаваўчай рабоце ПТВ № 130 Чэрыкава.**

Новыя піянеры

## Дэвіз: дабро, Радзіма, справядлівасць

***У сярэдзіне 80-х гадоў наша адукацыя аказалася на пераломе дзвюх сацыяльных сістэм, кожная з якіх мела свой сацыяльны запас. Піянерская арганізацыя аказалася на задворках адукацыі. З усіх бакоў у яе адрас сыпаліся папрокі, не заўсёды апраўданая крытыка, якая і прывяла да развалу піянерскай арганізацыі. Спатрэбілася 15 гадоў, каб мы нарэшце зразумелі прапісную ісціну: разбураючы, мы новага не прапанавалі і не стварылі. Сапраўды, піянерская арганізацыя за доўгія гады свайго існавання набыла вялікую колькасць недахопаў: яна была ў значнай ступені ідэалагізаванай, работа ў ёй вялася нярэдка фармальна. Аднак структура гэтай арганізацыі вельмі неабходна сённяшняй сучаснай школе. Яна дае магчымасць арганізаваць, сістэматызаваць работу з вучнямі па маральным, прававым, этычным, патрыятычным, працоўным выхаванні, дае магчымасць падлеткам рэалізаваць свае магчымасці.***

Лічу, што на сённяшні дзень ключ да поспеху ў выхаваўчай канцэпцыі школы ляжыць у піянерскай арганізацыі. Наша школа працуе ў рамках інавацыйнай канцэпцыі адаптыўнага навучання і выхавання вучняў. У новым навучальным годзе распрацаваны інавацыйныя комплексна-мэтавыя праграмы навучання і выхавання, у якіх прыкметную ролю адыгрывае піянерская арганізацыя. На ўвесь навучальны год распрацаваны план работы піянерскай дружыны "Праметэй".

Не сакрэт, што многія дзеці ў наш час засталіся без увагі, многія не могуць рэалізаваць сябе. Таму мы правялі апытанне сярод дзяцей і падлеткаў і прыйшлі да высновы, што трэба стварыць арганізацыю ў нашай школе, якая дасць магчымасць напоўніць інтарэсы дзяцей сацыяльна значным зместам, будзе рыхтаваць іх да жыцця і працы ў новых сацыяльна-эканамічных умовах.

Калі арганізацыя перастае быць фармальнай, мае дакладную і зразумелую праграму, у яе добраахвотна, з вялікім жаданнем ідуць дзеці. На сённяшні дзень піянерская дружына сярэдняй школы № 72 сталіцы — самая вялікая ў Партызанскім раёне, яна налічвае 80 чалавек. Быць піянерам у нашай школе — гэта сапраўды быць першым ва ўсіх справах. Піянерам зайздросцяць, на іх раўняюцца.

У планах нашай школы — адкрыццё музея баявой славы. Дзеці ўжо прыносяць экспанаты. У школе прыступілі да распрацоўкі праекта "Зямля — наш дом", у якім вялікае месца адводзіцца піянерскай арганізацыі. Аднак работа піянерскай арганізацыі немагчыма без матэрыяльнай і духоўнай падтрымкі.

Асноўныя паняцці, якія закладзены ў прынцыпы піянерскай арганізацыі, — справа, дабро, Радзіма, справядлівасць. Мы прыкладваем усе намаганні, каб дапамагчы кожнаму піянеру стаць сапраўдным грамадзянінам, сваімі справамі і ўчынкамі прыносіць карысць сабе, сям'і, Бацькаўшчыне.

Вучні нашай школы ўступаюць у арганізацыю добраахвотна, з вялікім жаданнем. Але спачатку яны праходзяць розныя іспыты. Так, першая група падлеткаў узяла шэфства над ветэранамі Вялікай Айчыннай вайны, якія жывуць у нашым мікрараёне. Яны пастаянна наведваюць ветэранаў, дапамагаюць ім па гаспадарцы, віншуюць са святамі. Падлеткі ўстанавілі сувязь з удзельнікамі падполля, якое дзейнічала ў Рагачоўскім раёне. Піянеры збіраюць розны матэрыял, запісваюць расказы пра баявыя дзеянні гэтага падпольнага атрада для таго, каб стварыць свой музей. У нашых планах — наладзіць супрацоўніцтва з музеем у горадзе Рагачове, з'ездзіць на экскурсію ў мясціны, дзе праходзілі падзеі таго часу.

Для таго каб больш ведаць пра свой край, мы ходзім у паходы. Нядаўна зрабілі паход у мястэчка Вязынка, наведалі музей Янкі Купалы, пазнаёміліся з побытам беларусаў і ўмовамі, у якіх жыў паэт. На прывале піянеры выбралі для сябе пэўны ўчастак лесу для таго, каб ачысціць яго ад смецця. Прычым наладзілі спаборніцтвы паміж атрадамі, хто зробіць гэта больш якасна. Пасля дзеці гулялі ў футбол, у іншыя спартыўныя гульні, пяклі бульбу, спявалі песні, расказвалі розныя гісторыі, жартавалі. З паходу вярталіся з узнятым настроем.

Піянеры выказалі жаданне павіншаваць дзяцей-інвалідаў са спецінтэрната з навагоднімі святамі. Яны падрыхтавалі і падарункі для гэтых дзяцей.

Піянеры не толькі самі добра вучацца, але і ўзялі шэфства над непаспяваючымі вучнямі, дапамагаюць ім пераадольваць цяжкасці ў вучобе.

У нашай дружыне створаны атрад юных інспектараў руху. Члены гэтага атрада вядуць растлумачальную работу сярод малодшых школьнікаў па правілах дарожнага руху, дзяжураць на скрыжаваннях. Рэдкалегія піянерскай дружыны пастаянна выпускае насценгазеты, прысвечаныя розным святам.

Не забываем мы і пра адпачынак: наладжваем вечары адпачынку, на якіх праводзяцца конкурсы, гульні.

*Мы вельмі хочам наладзіць сувязь з піянерскімі атрадамі нашай Беларусі, а таксама Расіі і іншых краін. Пішыце нам па адрасе: г.Мінск, вул.Халмагорская, д.59, сярэдняя школа № 72, Куляшовай Алене Мікалаеўне.*

**Алена КУЛЯШОВА,**
**настаўніца, кіраўнік піянерскай арганізацыі сярэдняй школы № 72 Мінска.**



Весткі з сярэдняй школы № 13 Мазыра

### У спорце — першыя

***У пашане тут спорт. У спартыўнай зале вучні маюць магчымасць адначасова займацца валейболам і баскетболам. Добра абсталявана футбольнае поле. Школа набыла дастаткова валейбольных, футбольных, баскетбольных мячоў і іншага інвентару. Ёсць два наборы гульні ў хакей. Гэтым відам спорту адначасова могуць займацца дзесяць чалавек.***

Добрых вынікаў дабіваецца настаўнік фізкультуры вышэйшай катэгорыі Аляксандр Міхайлавіч Нікіфараў. Валейбольная каманда дзяўчынак ужо некалькі гадоў запар займае першае месца сярод школ горада і прызавое — у вобласці. Першынство ў горадзе па баскетболе трымае каманда хлопчыкаў, дзе трэнерам працуе А.В.Гадзюка. Аляксандр Васільевіч — настаўнік вышэйшай катэгорыі.

Вучні гэтай навучальнай установы трымаюць першынство сярод школ горада па лёгкай атлетыцы, кросе, турызме.

Многія з іх вырашылі звязаць свой лёс са спортам. За апошнія два гады на аддзяленні фізвыхавання ў навучальныя ўстановы паступілі 13 выпускнікоў школы.

### Басейн працуе круглы год

***Плавальны школьны басейн працуе на працягу ўсяго года. Яго наведваюць хлопчыкі і дзяўчынкі нулявога, а таксама 1 — 5 класаў.***

Трэнеры сочаць за тым, каб пазбегнуць скрыўлення пазваночніка, добра ўмацаваць мышцы спіны. Як правіла, вучні менш хварэюць. У гэтым вялікая заслуга трэнера па плаванні Анатоля Дашкевіча. За станам здароўя дзяцей сочыць таксама медсястра Марына Васенда.

У басейне ёсць медыцынскі пакой, раздзявалка. Яго штодзённа наведвае 800 вучняў.

### Грамата — школьнай сталовай

***Школьная сталовая з'яўляецца адной з лепшых у вобласці. За якаснае прыгатаванне ежы, належнае абслугоўванне вучняў летась яе калектыву ўручана грамата ўпраўлення адукацыі Гомельскага аблвыканкама.***

У сталовай праце 12 чалавек. Калектыў узначальвае Г.П.Туравец. Галіна Пятроўна — высокакваліфікаваны спецыяліст, пастаянна сочыць за захаваннем санітарыі, якасным прыгатаваннем стравы, разнастайнасцю меню.

У меню заўсёды ёсць сокі, цытрусавыя, салаты, мясныя і рыбныя стравы. На кожнага вучня дзяржава выдзяляе не менш чым 900 рублёў. Вучняў з нулявых класаў кормяць тры разы ў дзень, і на кожнага з іх выдзяляецца ў сярэднім па 1600 рублёў.

### Дзякуй, шэфы!

***Без іх сёння школе ў гэты складаны час існаваць было б вельмі цяжка. Да шэфаў дырэкцыя звяртаецца з рознымі просьбамі.***

Так, домабудаўнічыя камбінаты №№ 1 і 2 дапамагаюць цэментам, крэйдай. З іх дапамогай праводзіцца рамонт дзвярэй, сталоў, парт. Хочацца выказаць шчырыя словы ўдзячнасці адміністрацыі "Мазырнафтапастаўкі" за чуласць і ўвагу да школы. Цесную сувязь з ёй трымае дырэктар ПМК-105 Валянцін Фёдаравіч Пісанік.

**Аляксандр ГРУШЭЦКІ,**
**настаўнік гісторыі сярэдняй школы № 11 Мазыра.**

Здароўе дзяцей — здароўе нацыі

# Каб кожны дзень пачыналі з радасцю, а заканчвалі — мірам

***Выпадкі ў практыцы псіхолага санаторнай школы-інтэрната, як і любой дзіцячай установы, бываюць самыя розныя. Доўгае перажыванне хворым падлеткам, напрыклад, свайго фізічнага дэфекту абавязкова вядзе да развіцця неўрозу, хваравітай ранімасці, празмернай узбуджальнасці, афектаў, фобій. Таму школьны псіхолаг павінен своечасова аказваць падлеткам псіхалагічную дапамогу, якая ім вельмі патрэбна.***

### З розных ідэй і гіпотэз

У нашай санаторнай школе-інтэрнаце ажыццяўляецца комплексны падыход да лячэння дзяцей, іх аздараўлення з выкарыстаннем медыцынскіх, выхаваўчых, псіхалагічных мерапрыемстваў лячэбнай, псіхалагічнай і карэкцыйнай накіраванасці. Сацыяльна-псіхалагічная адаптацыя нашых вучняў ажыццяўляецца на розных узроўнях: арганізацыйным, на ўзроўні класа, невялікай групы, асобасным. Дзяцей у нашай школе 149. Гэта 149 індывідуальнасцей. Хваробы страўніка, на якія пакутуе абсалютная большасць нашых вучняў, уплываюць на іх пазнавальную сферу, інтэлект, асаблівасці асобы.

Абследаванне, праведзенае ў нашай школе, паказала, што на фоне хранічнага захворвання страўніка даволі частыя асобасныя змены: перш за ўсё зніжэнне інтэлектуальных здольнасцей, эмацыянальная дэзарганізацыя мыслення, пэўная разумовая непаўнацэннасць. Адны дзеці ўзбуджаны, напружаны, раздражнёны, падвержаны эмацыянальным успышкам, іх інтарэсы зменлівыя, яны вельмі стамляюцца, у школе іх завуць "псіхамі". Другія замкнёныя, вялыя і безуважныя. Падлеткі-"псіхі" пры любой несправядлівасці і крыўдзе лаюцца, льюць слёзы, нярэдка б'юцца жорстка і бессэнсоўна, часцей гэта бывае з хлопчыкамі, але бывае і ў дзяўчынак (узрост 7-га класа). Безумоўна, гэта выклікаецца не толькі хваробай, але і неспрыяльнай дамашняй абстаноўкай, агрэсіўнымі паводзінамі бацькоў, пабоямі. У многіх дзяцей ярка праяўляецца астэнія, а на яе фоне — зніжэнне ўстойлівасці канцэнтрацыі, аслабленасць адвольнай увагі. Нашы хворыя падлеткі часта скардзяцца на дрэнную памяць. Канешне, пажадана, каб настаўнікі ў час урокаў пастаянна помнілі пра тое, што многія дзеці — сур'ёзна хворыя.

Як аказаць кваліфікаваную дапамогу падлеткам з асаблівасцямі фізічнага і саматычнага развіцця? Адказ на гэтае пытанне шукаюць і знаходзяць практычныя псіхолагі. На пачатку навучальнага года, калі ў школу прыходзяць новыя дзеці, яны пішуць сачыненне "Мая хвароба" ці пісьмо ў адрас свайго хворага страўніка, малююць сваю хваробу ці пачуцці, звязаныя з ёй, складаюць апавяданне ад імя сваёй хваробы і г.д. Паралельна праводзіцца фантазія "Ружовы куст", архетыпы "Вада", "Зямля", "Агонь", "Сонца" па методыцы Дж. Алана, якія адразу дапамагаюць псіхолагу вылучыць падлеткаў, якім асабліва востра патрэбна першачарговая псіхалагічная дапамога.

Псіхолаг абавязкова працуе ў цеснай узаемасувязі са школьнымі ўрачамі і медсёстрамі, знаёміцца з дыягназамі захворванняў, звяртае ўвагу на адпаведнасць фізічнага развіцця ўзросту: рост, вага, зрок, слых, асанка і г.д. Праводзяцца пастаяннае назіранне за паводзінамі падлетка, гутаркі з яго бацькамі. Псіхолаг мае анамнестычныя звесткі на кожнага падлетка (у нашым выпадку 4 — 9 класы). Ён сочыць, як уплываюць фізічныя і саматычныя асаблівасці вучня на развіццё яго асобы, у чым і як гэта праяўляецца. Калі ўплыў негатыўны ці існуе магчымасць карэкцыі, урач ставіць дыягназ, паведамляе, якімі захворваннямі, магчыма, ускладнена спадчыннасць і дае свой прагноз развіцця хваробы. Псіхолаг выпрацоўвае свой мяркуемы псіхалагічны дыягназ, які павінен змяшчаць прагноз на будучае, калі будзе ці не будзе карэкцыі. І фармулюе магчымыя гіпотэзы.

Сутнасць дыягнастычнага заключэння — у фарміраванні розных ідэй і гіпотэз, якія датычаць праблем гэтага дзіцяці, прычын, што садзейнічаюць захаванню праблемы, і найбольш эфектыўных спосабаў карэкцыі. Вывучаюцца знешнія сіндромы паводзін. Калі неабходна дапамога парапсіхолага ці дэфектолага, то падлетак у тактоўнай форме накіроўваецца да спецыяліста. Псіхолаг можа правесці глыбокае псіхалагічнае абследаванне падлетка, якое ўключае ў сябе дыягностыку па розных відах дзейнасці, дэталёва вывучаецца перадгісторыя кансультуемага выпадку. Кансультацыі могуць быць аднаразовымі і шматразовымі. Гэта могуць быць гутаркі. Мэтай дыягностыкі можа быць выпрацоўка неабходных практычных рэкамендацый для настаўнікаў і выхавацеляў, якія працуюць з падлеткамі з асаблівасцямі фізічнага і саматычнага развіцця.

Псіхалагічны дыягназ не павінен кампраметаваць дзіця, гэта значыць псіхолаг павінен прытрымлівацца этычных нормаў і прынцыпаў у сваёй працы. У кожным канкрэтным выпадку псіхолаг павінен улічваць канкрэтныя абставіны абследавання, іх уплыў на вынікі і супастаўленне іх з нарматывамі. Так, псіхолаг мае справу з унікальнай сітуацыяй, калі ў рэальнай жыццёвай сітуацыі неабходна прымяніць абгрунтаванае дыягнастычнае абследаванне. Часта бывае, што падлетак прыйшоў з адной праблемай, а аказваецца — іншая.

### "Вось я вырашыла, што я — вар'ятка"

Першы выпадак. Да псіхолага па рэкамендацыі ўрача школы на кансультацыю прыйшла дзяўчынка Ніна У., пяцікласніца 11 гадоў. Дзяўчынка сфармулявала сваю праблему наступным чынам: "Мама сказала, што ў мяне неўроз, ёй так урач сказаў. Вось я і вырашыла, што я — вар'ятка". Расплакалася. Першапачатковая гіпотэза была такая: павышаная трывожнасць і высокая ступень эмацыянальнай лабільнасці. Быў выкарыстаны мадыфікаваны колеравы тэст Люшэра, які паказаў наяўнасць сур'ёзных унутраных канфліктаў, уздзеянне працяглага стрэсу і г.д.

Ніначка скардзілася на галаўныя болі, болі ў спіне і жываце — відавочныя прыкметы стрэсавага напружання. І паведаміла, што ёй уяўляюцца чырвоныя плямы на стале, сценах. Псіхолаг прапанавала намаляваць гэтыя плямы. Абрысы выразна нагадвалі мужчыну з нажом, які нахіліўся да жанчыны і замахнуўся для ўдару. Далейшыя кансультацыі прыводзілі да новых адкрыццяў: пасля правядзення накіраванай візуалізацыі "Ружовы куст" узнікла яшчэ адна гіпотэза — магчымасць сексуальнага гвалту. Пасля гутаркі і правядзення кінетычнага малюнка сям'і было высветлена, што сваяк дзяўчынкі, пажылы мужчына, іншаземец, разбэшчваў дзяўчынку падчас яе паездак з маці да яго ў госці. Дзяўчынка гаварыла псіхолагу, што ёй "хочацца зняць з сябе скуру, я быццам уся ў гразі". Ніначка прасіла не гаварыць пра гэта маці. Аднак псіхолаг вырашыла, што сітуацыя мае пагрозу для псіхікі і здароўя дзяўчынкі, сустрэлася з маці дзіцяці. У ходзе гутаркі з ёй псіхолаг выказала меркаванне, што, магчыма, дзяўчынцы пагражае сексуальны гвалт, нібыта гэта відаць па малюнкавых тэстах. Маці адразу зразумела, што гэта магчыма з боку іх сваяка. Яна паабяцала, што больш дачку за мяжу не возьме і будзе да яе ўважлівай.

Дзяўчынка прыходзіла да псіхолага адзінаццаць разоў. У ходзе кансультацый выкарыстоўваліся накіраваныя фантазіі, візуалізацыя. Ніначка засвоіла эфектыўныя прыёмы рэлаксацыі. Вынікі былі станоўчымі. У дзяўчынкі спыніліся галаўныя, страўнікавыя болі. Нармалізаваўся эмацыянальны стан. Ёй было прапанавана ў парадку выключэння застацца ў інтэрнаце яшчэ на адзін год, каб замацаваць добрыя перамены ў складаным унутраным свеце.

### "Аказваецца, я нармальны чалавек"

Другі выпадак. Да псіхолага звярнуўся вучань 9-га класа 15-гадовы Дзіма П. з медыцынскім дыягназам "гастрадуадэніт". Ён страціў апетыт, і ўрач, западозрыўшы магчымасць псіхалагічнай праблемы, прыслала яго да псіхолага. Падлетак вельмі нерваваўся, сказаў, што хоча забіць свайго бацьку, разумеючы, што гэта злачынства, але баіцца не вытрымаць. Падчас першай кансультацыі было высветлена, што бацька пастаянна піў, біў маці, якая з-за гэтага перыядычна трапляла ў бальніцу.

Аднойчы бацька вырашыў узарваць увесь дом, адкрыў краны газавай пліты і стаў з запалкамі ў руках ля парога. Суседзі выклікалі міліцыю, але самі не адважваліся падысці. Тады малодшы брат Дзімы падышоў да бацькі і сяк-так, падманам забраў запалкі. Бацьку пасадзілі ў турму. Адтуль ён піша дадому лісты, поўныя любві. Хоча вярнуцца да іх, засталося тры месяцы да яго вызвалення. Маці вагаецца, а Дзіма яго ненавідзіць.

Хлапчуку была аказана пэўная псіхалагічная дапамога: прапрацаваны сцэнарны апытальнік Берна. Любімая казка падлетка — "Чырвоная Шапачка". Цікава, што сябе ён лічыў паляўнічым, а бацьку — ваўком. Але потым сказаў, што і любімы адмоўны персанаж у яго — таксама воўк, таму што ён дужы, смелы і хітры! Гэта значыць ён не толькі ненавідзіць, але і захапляецца бацькам. Былі выкарыстаны юнгіянскі падыход, методыка Алана і інш. Сярод сваякоў быў знойдзены пазітыўны персанаж для пераймання.

Выкарыстоўвалася праектыўнае маляванне архетыпаў "сонца, зямлі, вады і агню". Гэта вельмі дапамагло падлетку. Была адпрацавана ніжэйшая ступень аўтагеннай трэніроўкі паводле метаду Шульца. Падчас кансультацый Дзіма навучыўся базавым сацыяльным уменням. Напрыклад, як адказваць на правакацыю іншых, не трапляючы ў праблемную сітуацыю. Сумесна з псіхолагам праблемы хлапчука былі вырашаны. Ён паехаў вучыцца ў іншы горад, вызначыўся, як паводзіць сябе нават у непрадказальнай сітуацыі, адзначыў паляпшэнне самаадчування. Псіхолаг старалася назіраць за падлеткам, трымала з ім сувязь, калі ён паехаў.

Пасля гэтага прайшоў год. Нядаўна псіхолаг даведалася, што ў яго ўсё ў парадку. Ён вучыцца, маці з бацькам развяліся, таму што гэта было для маці адзінае выйсце. Калі падлетак пакідаў інтэрнат, ён зайшоў да школьнага псіхолага развітацца і сказаў: "Я думаў, што я — псіх, а аказваецца, я нармальны чалавек, дзякуй". Псіхолаг пажадала Дзіму мужнасці.

Такім чынам, воля псіхолага як бы перадаецца падлетку і дае яму зарад для працы над сабой. Падчас "споведзі" і псіхолаг, і падлетак былі настроены на песімістычны лад, а на стадыі тлумачэння выпрацоўвалася новая мадэль паводзін, і замест адчаю ў Дзімы паявілася мужнасць... Псіхолаг пераканалася, што галоўнае ў кансультаванні — гэта шчырая эмпатыя да кліента, таму што падлеткі хутка адчуваюць фальш.

### "Маёй маме на мяне напляваць"

Часта псіхолаг працуе з дзіцем і не мае магчымасці далучыць да гэтага працэсу яго сям'ю. Асабліва складана з праблемнай сям'ёй, дзе падлетак з'яўляецца "казлом адпушчэння". Бацькі звычайна бачаць у ім першапрычыну ўсіх сваіх бед. Для такога дзіцяці асабліва важны кантакт з псіхолагам, гэта значыць з чалавекам, які паважае яго і бачыць у ім асобу, якая мае права на незалежнае развіццё.

Калі сям'я вельмі неарганізаваная, трывожная і ў ёй няма згоды, то першыя заняткі праводзяцца толькі з падлеткам. Напрыклад, бабуля цягне дзіця ў царкву, маці патрабуе добрых ацэнак, кожны дзень бегае ў школу і плача, а бацька перыядычна б'е. У выніку дзіця збягае ў іншы горад. Толькі са згоды дзіцяці запрашаю ў школу членаў сям'і, аднойчы гэта была нават прабабуля. Агульныя заняткі з сям'ёй паказваюць, дзе адбываецца "збой". Напрыклад, дзіця скардзіцца: "Дзядуля не дазваляе мне з ім нічога майстраваць". Псіхолаг канкрэтызуе, чым дзіця хоча займацца з дзядулем, што ў дзіцяці раздражняе дзядулю. Ці маці кажа: "Ён усё робіць мне на злосць". — "Калі ласка, падрабязней, што значыць "на злосць"?"

Псіхолаг павінен сачыць, каб гаворка не "расплывалася", а была сканцэнтравана на праблеме. Узаеміны падчас кансультацыі — гэта не толькі прыемнае буркаванне, якое прыносіць задавальненне, яны могуць несці гора і прыкрасць, гнеў і трывогу. Да гэтага трэба быць гатовым. Напрыклад, дзіця кажа: "Маёй маме на мяне напляваць. Яна нават не ведае, што я так люблю музыку і хачу іграць на гітары, а ў яе толькі кірмашы і гандаль у галаве". Мама гаворыць: "А адкуль я пра яго буду ведаць? Яму добра з сябрамі, навошта яму яшчэ нейкая гітара?" Гэта значыць, яна зусім нічога не ведае пра інтарэсы сына. Многія бацькі настолькі атаясамліваюць сябе з падлеткам, што не разумеюць, што ён асобны чалавек. Напрыклад, адна мама ўшчувае дзяўчынку Алесю за тое, што яна плаксівае дзіця (дзіця вельмі чуллівае, з высокай ступенню лабільнасці). Калі маці была дзяўчынкай, яе мама крычала на яе за тое, што яна плакала, і тая яе ненавідзела. У такія моманты яна была як бы і яе маці, і дзіця адначасова.

Усвядоміўшы гэта ў працэсе кансультацыі, маці стала паводзіць сябе больш асцярожна ў адносінах да дачкі. Часам бацькі перажываюць, што дзіця тоўстае, дрэнна бачыць, а дзіця зусім не так моцна перажывае адносна гэтага. Атрымліваецца, што ў маці праблемы з адаптацыяй. Бацькі страшэнна здзіўляюцца, калі раптам разумеюць, што іх дзіця — гэта самастойная асоба са сваімі ўласнымі жаданнямі, пачуццямі.

Мне як псіхолагу блізкія словы У.Леві: "Жадаю, каб кожны дзень разам з дзіцем вы пачыналі з радасцю, а заканчвалі — мірам". З улікам таго, што дарослыя могуць будаваць больш канструктыўныя ўзаеміны са сваімі дзецьмі, калі будуць ведаць іх узроставыя асаблівасці і праблемы, распрацаваны курс бацькоўскіх сустрэч "Сакрэты цёплага дома". Іх місія — ствараць умовы для неабходных канструктыўных змен бацькоў і падлеткаў з асаблівасцямі фізічнага і саматычнага развіцця. Пажадана, каб бацькі засвоілі формулу паспяховага выхавання: строгасць + пахвала - раздражненне.

### Часцей згадваць сябе ў дзяцінстве...

Колькі слоў пра работу псіхолага з педагогамі. Праводзіцца гадавы цыкл заняткаў, які прадугледжвае навучанне прыёмам псіхалагічнай карэкцыі няправільных педагагічных установак. Плюс развіццё эмпатыі (паводле Харына і Самавукінай). Пастаянна распрацоўваюцца рэкамендацыі псіхолага для працы настаўнікаў і выхавацеляў з падлеткамі, якія маюць асаблівасці фізічнага і саматычнага развіцця.

Такім чынам, напрошваецца высновa, што пры лячэнні хранічных хвароб (у нашым выпадку СКТ) толькі медыкаментознае лячэнне рэдка прыводзіць да поўнага вылечвання. Калі застаецца эмацыянальны стрэс ад існуючых праблем, то падлетак, безумоўна, атрымае рэцыдыў. Для таго каб дабіцца стабільнага выздараўлення ці працяглага паляпшэння, павінны быць ліквідаваны ці хоць бы зменшаны пастаянныя раздражняльнікі як вынік канфліктных сітуацый, якія правакуюць стрэсы і дыстрэсы. Толькі ў цесным прафесійным супрацоўніцтве і пастаянным кантакце псіхолага з медыцынскімі работнікамі, педагогамі і бацькамі пры поўнай павазе адзін да аднаго можна дамагчыся ўстойлівага паляпшэння здароўя вучняў.

Кожны псіхолаг ведае мноства гісторый, і сумных, і вясёлых, і разумее, што ўсе дзеці патрабуюць увагі. Але заўсёды ёсць і "самыя-самыя". Заўсёды трэба памятаць, што работа з дзіцем — гэта працэс, які вымагае далікатнасці і асцярожнасці. Проста трэба часцей згадваць сябе ў дзяцінстве. Цвёрда ўпэўнена, што кожнае дзіця унікальнае і з'яўляецца паўнапраўнай асобай, але асобай тонкай, ранімай, якой патрэбен дарослы разумны саюзнік, дарадца. І такімі саюзнікамі для дзяцей становімся мы, псіхолагі.

**Людміла КАНДРАЦЬЕВА,**
**педагог-псіхолаг Слонімскай санаторнай школы-інтэрната, суіскальнік кафедры псіхалогіі Рэспубліканскага інстытута прафесійнай адукацыі.**

Адораныя дзеці

# Талент раскрываецца ў працы

***Нясвіжская беларуская гімназія існуе з 1991 года. Сёння паўстала праблема ўдасканалення работы са здольнымі вучнямі. Таму і была распрацавана праграма "Адораныя дзеці", над выкананнем якой працуе Нясвіжская гімназія. Работа па рэалізацыі вышэйназванай праграмы вядзецца ва ўрочны час і ахоплівае педагогаў, вучняў і іх бацькоў.***

Для паспяховай работы са здольнымі вучнямі педагогі павінны перш за ўсё ведаць псіхолага-педагагічныя асаблівасці такіх дзяцей. Усе настаўнікі гімназіі з'яўляюцца актыўнымі ўдзельнікамі семінара псіхолага-педагагічных ведаў, формамі работы якога з'яўляюцца лекцыі (для правядзення іх запрашаюцца навукоўцы), семінары, дыскусіі, практыкумы і псіхалагічныя трэнінгі.

Праблемны семінар "Напрамкі і метады развіцця творчых здольнасцей вучняў" праводзіцца разам з цыклавой камісіяй псіхалогіі і педагогікі Нясвіжскага педкаледжа. У час работы праблемнага семінара распрацавана карта "Творчыя здольнасці асобы вучня", абмеркаваны базавыя мадэлі ўрокаў, накіраваныя на развіццё творчых здольнасцей, праведзена арганізацыйна-дзейнасная гульня "Інавацыі і творчыя дасягненні асобы дзіцяці".

Метадычныя кафедры і аб'яднанні педагогаў паглыблена працуюць над тэмай "Развіццё інтэлектуальных здольнасцей і мыслення вучняў у працэсе навучання".

Возьмем, напрыклад, кафедру настаўнікаў прыродазнаўча-матэматычнага цыкла. У плане работы гэтай кафедры — распрацоўка тэматыкі індывідуальнай навукова-метадычнай работы з падвядзеннем вынікаў у канцы навучальнага года, аналіз тэкставых кантрольных работ у профільных класах, семінар "Псіхалагічныя і педагагічныя асновы ўрока" і інш. Акрамя таго, кафедра цесна супрацоўнічае з БДПУ імя М.Танка. Штомесяц выкладчык кафедры матэматыкі універсітэта праводзіць заняткі з вучнямі гімназіі на працягу двух дзён.

Кафедра настаўнікаў прадметаў гуманітарнага цыкла разглядала наступныя пытанні: "Работа з тэкстам — аснова арганізацыі самастойнай дзейнасці вучняў", "Развіццё пазнавальнай матывацыі і цікавасці вучняў", рыхтавала матэрыялы да правядзення псіхолага-педагагічнага кансіліума "Асаблівасці адаптацыі вучняў пятых класаў".

Вялікая ўвага надаецца падрыхтоўцы і правядзенню педагагічных саветаў. Навукова-метадычны савет і дырэкцыя стараюцца арганізаваць педсаветы такім чынам, каб кожны з іх быў нестандартным па форме, каб змест яго як мага глыбей закранаў надзённыя праблемы.

У другім паўгоддзі мінулага года калектыў рыхтаваўся да педсавета "Свет дзіцяці ва ўмовах рэалізацыі праграмы "Адораныя дзеці"". У рамках падрыхтоўкі да педсавета была вывучана неабходная літаратура, праведзены пасяджэнні кафедраў, праблемны семінар. Вялікую зацікаўленасць выклікаў тыдзень педагагічнага майстэрства, у час правядзення якога настаўнікі гімназіі правялі адкрытыя ўрокі, кожны з іх меў сваю "аўтарскую" задумку. Псіхолаг гімназіі правёў анкетаванне вучняў. Сам педагагічны савет, у якім прыняў удзел амаль кожны педагог, праходзіў у форме ролева-дзейнаснай гульні.

— Праграма "Адораныя дзеці" можа мець поспех толькі тады, калі ў ёй будуць прымаць актыўны ўдзел і самі дзеці, калі яны самі будуць зацікаўлены ў развіцці сваіх здольнасцей, — зазначае дырэктар Т.У.Юрэвіч.

З гэтаю мэтаю ў гімназіі працуюць 17 факультатываў і курсаў па выбары, арганізавана сістэматычная індывідуальная работа па падрыхтоўцы навучэнцаў да алімпіяд і паступлення ў ВНУ. Вырашаючы адну з галоўных задач — фарміраванне ў гімназістаў навыкаў самаадукацыі, распрацаваны шэраг мерапрыемстваў па прыцягненні іх да пошукавай і навуковай работы. Кожны вучань гімназіі мае "Асабістую картку", дзе запісвае ўсе свае дасягненні і поспехі. Работа спланавана так, каб вучні ўсіх узростаў мелі магчымасць рэалізаваць свае запыты ў пазнавальнай дзейнасці. Так, для навучэнцаў малодшых класаў арганізаваны вусны часопіс "Чамучка", на пасяджэннях якога ў цікавай форме дзеці атрымліваюць веды аб акружаючым іх свеце.

Вялікую работу праводзяць навучэнцы гімназіі пры падрыхтоўцы да інтэлектуальнага марафону, які ахоплівае тры цыклы: "матэматыка", "мовы" (руская, беларуская, англійская), "культуралогія" (гісторыя, музыка, культура).

Дзень правядзення інтэлектуальнага марафону, над падрыхтоўкай якога шмат працуе і настаўніцкі савет, і вучнёўскі камітэт, з'яўляецца сапраўднай падзеяй ў жыцці гімназіі. Кожны вучань мае магчымасць паказаць свае веды, а затым параўнаць сябе з астатнімі ўдзельнікамі. Пры падвядзенні вынікаў абвяшчаюцца толькі пераможцы, а астатнія атрымліваюць ліст, дзе пазначаны балы, якія яны атрымалі за свае веды. Робіцца гэта дзеля таго, каб кожны меў магчымасць убачыць свае або поспехі, або няўдачы.

А вось старшакласнікі маюць больш складаную задачу. На працягу вучэбнага года разам са сваімі настаўнікамі яны працуюць над тэмамі, рыхтуючыся да навукова-практычнай канферэнцыі. Канферэнцыя, якая праходзіла ў мінулым годзе, паказала, што некаторыя работы падрыхтаваны сур'ёзна і дасканала. Так, вучань 9-га класа Сяргей Шчурскі правёў даследаванне жыцця і творчасці беларускага паэта, свайго земляка Новіка-Пеюна. Дарэчы, работа гэтага вучня атрымала дыплом трэцяй ступені на Рэспубліканскай вучнёўскай канферэнцыі, якая праходзіла ў сакавіку 2000 года ў рамках праграмы ААН "Культура міру". Вучаніца 11-га класа Марыя Зайцава падрыхтавала рэферат "Рэнесанс у англійскай літаратуры" і прачытала яго на англійскай мове. Дзяніс Тарасаў, вучань 8-га класа, распрацаваў сігналізацыю для аўтамабіля і прадэманстраваў яе ў рабоце. Вынікі канферэнцыі ацанілі пазітыўна як вучні, так і настаўнікі.

Пазнавальная работа вучняў і трэніроўка іх "шэрага рэчыва" адбываюцца не толькі ў час вышэйназваных мерапрыемстваў. Амаль кожны другі вучань 5 — 11 класаў з'яўляецца ўдзельнікам конкурсу "Вавёрка", "Кенгуру", "Зубраня" і г.д., алімпіяды або алімпіяд, якія праводзяць ВНУ. Вучні старэйшых класаў займаюцца ў завочных школах пры БДУ. Штогод лепшыя матэматыкі прымаюць удзел у рабоце Рэспубліканскай матэматычнай навукова-даследчай школы ў п.Лужасна Віцебскай вобласці. А летам мінулага года лепшыя матэматыкі 11-га класа былі запрошаны ў матэматычны рэспубліканскі летнік у Іўе.

Рэалізацыя праграмы "Адораныя дзеці" ўключае і работу з бацькамі. Бацькі кожнага вучня павінны ведаць сапраўдныя і патэнцыяльныя здольнасці свайго дзіцяці, павінны ўмець стварыць неабходныя ўмовы для яго развіцця. А падчас бывае, што бацькі ведаюць аб сваіх дзецях менш, чым настаўнікі. З гэтаю мэтаю ў гімназію былі запрошаны навукоўцы-псіхолагі, якія абследавалі дзяцей з мэтай выяўлення ўзроўню іх інтэлектуальнага развіцця. Затым усе бацькі былі запрошаны на індывідуальную гутарку з навукоўцамі, дзе атрымалі не толькі паперку з баламі і працэнтамі, але і карысныя парады па развіцці і стымуляванні вучэбнай дзейнасці сваіх дзяцей. На працягу года на занятках бацькоўскага лекторыя працягваецца размова аб выхаванні сучасных дзяцей. Тут абменьваюцца вопытам і вучаць адзін аднаго ў гэтай нялёгкай справе выхавання і настаўнікі, і бацькі.

Працуючы па праграме "Адораныя дзеці", нясвіжскія асветнікі кіруюцца тым, што кожнае дзіця таленавітае. Таму тут не абмяжоўваюцца работай толькі з тымі вучнямі, у якіх здольнасці, як гаворыцца, "на паверхні", але і з тымі, хто сам аб сваіх талентах не здагадваецца. Для педагогаў гімназіі галоўнае, каб кожнае дзіця паверыла у сябе, каб кожнае стварыла сябе само.

**Мікалай ГРУДЗІНСКІ,**
**Ніна КАШКАН.**

Тут гартуюцца вайскоўцы

# Вось якія яны, дванаццацігадовыя мужчыны!

***— Сяргейка, а ты "Нязнайку на Месяцы" глядзеў? Кажуць, па тэлеку паказвалі... — фыркаючы ля ўмывальніка, спытаў хлапчук у таварыша, які стаяў побач.***

***— Мне бацькі гэты мульцік яшчэ летась на дзень нараджэння падарылі, — не без гордасці адказаў сусед.***

***Афіцэр, які з'явіўся ў праёме дзвярэй, незадаволена паморшчыўся:***

***— А вы што тут робіце? На заняткі хочаце спазніцца? Марш на пастраенне!***

***Выціраючыся на хаду ручнікамі, хлапчукі прашмыгнулі міма ротнага і, тупаючы чаравікамі па паркеце доўгага калідора, пабеглі ў размяшчэнне свайго ўзвода, дзе іх сустрэлі дружным смехам суворaўцы. Заўважыўшы струйку вады, што цякла ва ўмывальнік, афіцэр закрыў кран і, пакруціўшы галавой, усміхнуўся: "Ну, галчаняты..."***

Пунсовыя пагоны ў гарадскім тлуме відаць здалёк. А калі росту ў іх уладальнікаў, як кажуць у народзе, "ад гаршка паўвяршка" (няхай даруюць мне некаторыя малышы-першакурснікі), то ўвага прахожых забяспечана. Нехта глядзіць услед з любоўю, нехта — са шчырым здзіўленнем. Але цікаўнасць у позірках як у тых, так і ў другіх.

Ужо некалькі гадоў у Мінскае суворaўскае ваеннае вучылішча набіраюць падлеткаў пасля пятага класа сярэдняй школы. Жадаючых надзець пунсовыя пагоны — хоць адбаўляй. Ці можна ў адзінаццаць-дванаццаць гадоў зрабіць свой жыццёвы выбар? Псіхолагі сумняваюцца. Бывалі выпадкі, калі, вытрымаўшы ўсе іспыты пры паступленні ў прэстыжную навучальную ўстанову, хлапчукі ламаліся і пакідалі вучылішча, не правучыўшыся і некалькіх месяцаў. Мінскае СВВ — ужо далёка не школа. Жыццё па распарадку, фізічныя нагрузкі, напружаная вучоба — гэта яшчэ не поўны пералік цяжкасцей, якія даводзіцца пераадольваць падлеткам. Але найбольш цяжка ім псіхалагічна. На першым часе вучоба ў сценах суворaўскага для многіх хлапчукоў нагадвае гульню ў вайну. Праз колькі тыдняў прыходзіць разуменне, што родныя і блізкія хоць і прыходзяць пакуль дапамагаць на самападрыхтоўцы грызці граніт навукі, аднак яны ўжо далёка. І жыць у вучылішчы трэба па мужчынскіх законах. Нават калі ад роду табе дванаццаць гадоў.

У першыя месяцы вучобы падушкі многіх малышоў-першакурснікаў мокрыя ад слёз. Такая праўда.

— Гэта нармальна, — сцвярджае старшы памочнік начальніка вучэбнага аддзела па прафесійна-псіхалагічным адборы Жанна Казачонак. — Натуральная дзіцячая рэакцыя. Плачуць жа не таму, што ў вучылішчы нейкія невыносныя ўмовы. Ад мамы з татам дзіця адарвалі, а тут даводзіцца прывыкаць да такіх слоў, як "загад", "старшы па званні".

Перыяд адаптацыі лягчэй перажываюць тыя, хто зрабіў свой выбар самастойна. Суворaўца Аляксея Жыбулева, напрыклад, маці адгаворвала ад "непатрэбнай" задумы, ды марна. Пра выбар свой хлапчук не пашкадаваў. Суворавец Дзяніс Загорскі ў свой час міма СВВ на трэніроўкі па самба ездзіў. Форма суворaўская спадабалася. Вырашыў з сябрамі паспрабаваць шчасця пры паступленні. Удача ўсміхнулася толькі яму аднаму.

Дарэчы, вучацца ў вучылішчы нават хлапчукі, якія да паступлення ў Мінскае суворaўскае і ў горадзе вялікім не бывалі, тралейбусаў інакш як па тэлевізары не бачылі.

Падлеткам з сельскай мясцовасці на занятках, як правіла, цяжэй, чым гарадскім, — праяўляецца розніца ва ўзроўні падрыхтоўкі. Але педагогі ўпэўнены — у такім узросце можна навучыць рашаць задачы на працэнты і дробы. За час вучобы ў Мінскім суворaўскім можна паспяхова засвоіць правілы рускай і беларускай моў. Важна іншае, тое, што па пяцібальнай шкале не ацэньваецца, — навучыць хлапчука чалавекам быць!

Многія афіцэры-выхавацелі сцвярджаюць, што з малышамі працаваць цікавей. Чаму — не зразумела я, калі пачула гэта ўпершыню. Сказалі б, маўляў, больш клопату з першакурснікамі. Бо караць іх пакуль нельга — хіба што праз бацькоў уздзейнічаць. На заняткі ў першы час таксама абавязкова з імі трэба хадзіць, за партамі разам сядзець... Ды і служба нейкая непаўнацэнная ў малышоў гэтых: нарад па роце толькі днём свае абавязкі выконвае, а ноччу ў ложках песціцца. І ў звальненні кожны першакурснік адпачыць павінен.

Аказваецца, прываблівае афіцэраў у малышах іх адкрытасць. Да прыкладу, яны шчыра радуюцца дням нараджэння сваіх таварышаў, а прынесеныя бацькамі тарты дзеляць пароўну на ўсіх. І не варта здзіўляцца, калі пасля каманды "адбой" у тапках на босую нагу падыдзе да камандзіра хлапчанё і папросіць дазволу пачытаць у класе схаванага пад падушкай "Чараўніка Ізумруднага горада"...

**Святлана МАКАРАВА.**

Падзялюся з вамі

# Політэхнічная акадэмія ў люстэрку конкурсаў

***Беларуская дзяржаўная політэхнічная акадэмія — не толькі буйнейшая інжынерна-тэхнічная ВНУ краіны, але і актыўны стваральнік інтэлектуальнай уласнасці. Так, напрыклад, у 1999 годзе выдадзена 29 манаграфій (у 1998 годзе — 15, у 1997 — 14), 19 падручнікаў (у 1998 — 10, у 1997 — 2), 1147 навуковых публікацый (у 1998 — 811, у 1997 — 970), напісаных супрацоўнікамі БДПА. Гэтыя даныя, самі па сабе характарызуючы вялікі аб'ём ствараемага навуковага прадукта, дэманструюць і відавочную тэндэнцыю актывізацыі гэтай дзейнасці.***

Што да стварэння аб'ектаў прамысловай уласнасці і іх абароны, тут таксама назіраецца прыкметная тэндэнцыя да ўзрастання. Так, ад БДПА ў 1999 годзе было пададзена 57 заявак у Дзяржаўны патэнтны камітэт, у тым ліку 47 заявак на выдачу патэнтаў на вынаходствы і — упершыню — 10 заявак на выдачу карысных мадэляў. Пры гэтым 47 заявак на выдачу патэнтаў на вынаходствы склалі 19,83 працэнта (прыкладна адну пятую) заявак ад ВНУ Міністэрства адукацыі і 3,95 працэнта ўсіх заявак, што паступілі ў Белдзяржпатэнт у 1999 годзе.

Паводле вынікаў вынаходніцкай дзейнасці 1999 года сярод ВНУ Міністэрства адукацыі БДПА заняла першае месца.

Адзначаецца таксама павышэнне вынаходніцкай актыўнасці аспірантаў і студэнтаў. У 1999 годзе, напрыклад, да вынаходніцкай творчасці далучыліся 11 аспірантаў і 8 студэнтаў, у 1998 — 10 аспірантаў і 8 студэнтаў, у 1997 — 4 аспіранты. У першым паўгоддзі 2000 года сярод аўтараў дваццаці сямі заявак на вынаходствы — 2 аспіранты і 11 студэнтаў.

Падобная статыстыка абнадзейвае, бо існуе цесная сувязь паміж узроўнем патэнтавання вынаходстваў і эканамічным патэнцыялам краіны.

Відавочна, што сярод мерапрыемстваў, прымеркаваных да 80-годдзя нашай акадэміі, не апошнюю ролю адыгралі конкурсы навукова-тэхнічнай творчасці, праведзеныя навукова-даследчай часткай БДПА. У адпаведнасці з праграмай мерапрыемстваў, прысвечаных 80-годдзю акадэміі, былі распрацаваны палажэнні аб гэтых конкурсах і створаны камісіі па падвядзенні вынікаў, якія і завяршылі сваю работу ў перад'юбілейныя дні.

У Палажэнні аб конкурсе на лепшую навукова-даследчую работу (конкурс манаграфій) былі сфармуляваны наступныя асноўныя ацэначныя крытэрыі: навізна, значнасць для навукі і практыкі, актуальнасць. На аснове ацэначных шкал, рэкамендуемых Дзяржаўным камітэтам па навуцы і тэхналогіях і Міністэрствам адукацыі Беларусі, былі распрацаваны 4 віды рэкамендацыйных шкал: для фундаментальных і прыкладных даследаванняў; для даследаванняў у галіне прыродазнаўчых і тэхнічных навук і для даследаванняў у галіне грамадскіх навук. Першасная ацэнка рэкамендуемых на конкурс магаграфій праводзілася на факультэтах і агульнаакадэмічных кафедрах. Прымаліся да разгляду манаграфіі, выдадзеныя ў перыяд з 1996 года. Канчатковую ацэнку праводзіла камісія па падвядзенні вынікаў у складзе намесніка прарэктара па навуковай рабоце, вучонага сакратара навукова-даследчага сектара, прадстаўніка факультэтаў і загадчыка патэнтна-інфармацыйнага аддзела БДПА.

Канчатковае рашэнне прымалася не проста: большасць прадстаўленых на конкурс манаграфій заслужана характарызаваліся самымі высокімі значэннямі ўсіх паказчыкаў. Як бы то ні было, вынікі конкурсу падведзены. Пераможцам стаў аўтарскі калектыў у складзе Н.В.Богдана, А.І.Сафронава і Ю.Е.Атаманава за цыкл выдадзеных у 1997 — 1999 гг. манаграфій, прысвечаных канструяванню, устройству і тэхнічнаму абслугоўванню тралейбусаў, перспектывам развіцця гэтага віду транспарту. Другое месца заняла кніга Б.І.Гусакова "Эканамічная эфектыўнасць інвестыцый уласніка" (яе актуальнасць не патрабуе каментарыяў). Трэцяе месца — у манаграфіі Б.А.Багатава і І.В.Касарэвіч "Кампазіцыйныя матэрыялы: ідэя і практыка утылізацыі каустабалітаў".

Што да конкурсу на лепшае ўкаранёнае вынаходства, то згодна з Палажэннем аб конкурсе ў ім удзельнічалі вынаходствы, укаранёныя ў перыяд 1996 — 2000 гг. Пры падвядзенні вынікаў браўся пад увагу ўзровень дасягнутага станоўчага эфекту, аб'ём выкарыстання вынаходства ў вытворчасці, узровень складанасці вырашанай тэхнічнай задачы і велічыня эканамічнага эфекту, дасягнутага за кошт укаранення.

Патрэбна сказаць, што пры падвядзенні вынікаў гэтага конкурсу камісія не адчувала ніякіх цяжкасцей. Прымяненне названых крытэрыяў поўнасцю выключала магчымы суб'ектывізм ці розныя падыходы да ацэнкі, паколькі гэтыя крытэрыі былі вычарпальна дакладна сфармуляваны яшчэ ў вынаходніцкім праве СССР, а іх прымяненне было праверана практыкай дзесяцігоддзяў. Таму ўжо на сваім першым пасяджэнні камісія вызначыла пераможцаў. Імі сталі: В.А.Кароль і А.В.Сцепаненка (вынаходства "Устройства і метады для сінхроннай апрацоўкі супрацьлеглых канцоў аўтамабільнай ліставой рэсоры" — патэнт ЗША № 5001918, паводле якога дзейнічае ліцэнзійнае пагадненне з амерыканскай фірмай "Ітан карпарэйшн") — першае месца; Н.В.Богдан і А.С.Павароха (вынаходства "Устройства для выпрабавання вільгацеаддзяляльнікаў рэгулятараў ціску пнеўматычных тармазных сістэм транспартных сродкаў") — другое месца; А.Э.Паўловіч (вынаходства "Стэнд для выпрабавання тармазных сістэм шматзвённых аўтамабільных і транспартных вытворчасцей") — трэцяе месца.

Правядзенне конкурсаў прадэманстравала высокі ўзровень навуковага патэнцыялу нашай акадэміі. З улікам павелічэння колькасці ствараемых у БДПА манаграфій патрэбна прадумаць пытанне аб магчымасці правядзення адпаведнага конкурсу штогод. Чакае свайго вырашэння і пытанне аб мэтазгоднасці рэгулярнага правядзення конкурсу падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў.

**Уладзімір ЛАЗАРАЎ,**
**загадчык патэнтна-інфармацыйнага аддзела навукова-даследчага сектара БДПА,**
**член конкурсных камісій.**

